Народная Воля

18 СНЕЖНЯ 2001 г.

ПУЛЬС




Мінск, плошча Незалежнасці.

Фота IREX/ProMedia.

## Магілёўская вобласць — на парозе эпідэміі грыпу

Уступілі ў дзеянне мерапрыемствы комплекснага плана прафілактыкі гэтага захворвання, прыняты частковыя абмежаванні на правядзенне масавых мерапрыемстваў і відовішчаў.

Найбольш цяжкае эпідэмічнае становішча складваецца ў другім па велічыні горадзе вобласці — Бабруйску. Тут узровень захворвання на грып перавысіў эпідэмічны парог у 2,9 раза. У Магілёве — у 2,2 раза. У абласным цэнтры па медыцынскую дапамогу штодзённа звяртаюцца каля 600 чалавек, якія захварэлі на грып. Эпідэмія абвяшчаецца, калі эпідэмічны парог захворвання перавышаецца ў тры разы на працягу трох дзён.

На думку ўрачоў абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, сёлета ў вобласць прыйдуць вірусы грыпу А і В — тыя, што мелі месца летась і да якіх у многіх жыхароў ужо выпрацаваўся імунітэт. Часткова знізіць узровень захворвання дапамогуць прышчэпкі, якія пачалі рабіць яшчэ ў кастрычніку.

Канстанцін УВАРАЎ.

## У Гомельскай вобласці кожны дзесяты — п'яніца

Кожнае пятае правапарушэнне ў краіне прыпадае на Гомельскую вобласць, што з'яўляецца самым высокім паказчыкам, а раскрывальнасць — адна з самых нізкіх у краіне — каля 50 працэнтаў.

Адна з прычын ускладнення крымінагеннага становішча — п'янства насельніцтва. У вобласці налічваецца каля 20 тысяч хранічных алкаголікаў, а 105 тысяч чалавек — кожны дзесяты жыхар працаздольнага ўзросту — прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за п'янства.

Ірына ШАНЦАВА.

## На вуліцы Няміга будзе паркінг

Паркінг агульнай плошчай 25 тысяч квадратных метраў працягнецца ад будынка прадпрыемства "Белпраект" да вуліцы Камсамольскай.

Згодна з праектам, з'явіцца новая вулачка, а існуючыя будынкі будуць адноўлены. Паркінг будзе мець некалькі ўзроўняў. Два ніжнія паверхі зоймуць рэстараны, кафэ, гандлёвыя і дапаможныя плошчы. На верхніх паверхах размесціцца стаянка на 500 месц.

Прынята рашэнне распачаць будаўніцтва ў красавіку—маі 2002 года. Работы разлічаны на паўтара-два гады.

Гістарычная спадчына на тэрыторыі рэалізацыі праекта закранацца не будзе. Даследаванні па рэгенерацыі паказалі, што слой XIX стагоддзя не будзе закрануты. Ёсць таксама план правядзення археалагічных пошукаў, у выніку якіх, магчыма, будуць знойдзены рэшткі сярэдневяковых будынкаў — яны таксама будуць захаваныя.

Лавінія АРЭШКА.

## Вучыцца за мяжой можна, не пакідаючы Беларусь

З 2001 года ў Беларусі рэалізуецца трохгадовы праект, падтрыманы ЮНЕСКА, — па трансферы праграмы інфарматыкі універсітэта Мангейма ў Беларусь.

Праект рэалізуецца па тэхналогіях дыстанцыйнага навучання і дазволіць беларускім студэнтам, не пакідаючы краіну, атрымліваць адукацыю ў другім па рэйтынгу універсітэце свету.

"Сумесна з Асацыяцыяй цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх камп'ютэрных сетак (CEENET) намі праводзіцца работа па стварэнні тэхналогіі дыстанцыйнага навучання, — паведаміла ў інтэрв'ю БелаПАН кандыдат тэхнічных навук Гаянэ Вальчэўская. — У Беларусі ўжо больш за дзесяць чалавек навучыліся па Еўрапейскай праграме метадалогіі і тэхналогіі дыстанцыйнага навучання. З беларускага боку ў гэтай праграме бяруць удзел як студэнты, гэтак і выкладчыкі, якія праводзяць навучанне ў дыстанцыйным асяроддзі".

Як зазначыў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН дырэктар навукова-інжынернага прадпрыемства "Інфармацыйныя тэхналогіі" доктар тэхнічных навук Міхаіл Маханёк, "тэхналогіі дыстанцыйнага навучання значна павышаюць якасць навучання студэнтаў і могуць прадухіліць адток з краіны таленавітай моладзі, якая жадае атрымаць адукацыю за мяжой".

Юрый КАСЬЯНАЎ.

РЭБУС

## Якім жа словам верыць?

**На сустрэчы ў сваёй мінскай рэзідэнцыі з даверанымі асобамі, якія працавалі ў яго камандзе на прайшоўшых выбарах, Аляксандр Лукашэнка заявіў:**

— Я хачу, каб вы ведалі, што я прэзідэнт Беларусі. І тыя інтарэсы, якія павінны быць захаваны, нашай дзяржавы, нашага народа, нас з вамі, ім ніколі здрады не будзе... Я нікому не здам Беларусь, пакуль я прэзідэнт.

Але ў час гэтай жа сустрэчы ён сказаў і літаральна супрацьлеглае, а іменна:

— Мы зробім усё, што абяцалі ў рамках Саюза Беларусі і Расіі, і пойдзем настолькі далёка ў гэтым Саюзе, наколькі сёння здольна пайсці Расійская Федэрацыя.

"Наколькі далёка здольна пайсці Расійская Федэрацыя", мы ведаем. Вуснамі яе палітыкаў не раз выказвалася думка аб тым, што Беларусь павінна стаць суб'ектам Расіі, а некаторыя нават дамагаюцца, каб нашыя вобласці, кожная паасобку, сталі губернямі Расіі, каб нават не было больш такой назвы, як Беларусь.

Дык што, мы гатовы да гэтага? Якім словам Лукашэнкі верыць?

Алесь ДРАБЧУК.

РЕЗОННЫЙ ВОПРОС

## В свои 16 лет я трудился на Победу. И это ничего не значит?

Волею судьбы я, 15-летний подросток, 27 июня 1941 года из горящего Минска попал в Могилев, а оттуда вместе с другими детьми пионерского лагеря "Талька" был эвакуирован в тыл, в г.Кузнец Пензенской области. С июня 1942-го по июль 1946-го, после учебы в ремесленном училище, работал токарем в Новосибирске на комбинате №179, который входил в промышленную отрасль по производству боеприпасов. Работали мы, подростки, как и взрослые, по 12 часов в сутки, без отпусков и выходных.

Прошло много лет. Еще в 1993 году в России было введено положение, согласно которому достаточно записи в трудовой книжке, подтверждающей работу в тылу в военное время, или показаний двух свидетелей — и ты получаешь статус участника ВОВ. А в Беларуси, которую наши правители готовы присоединить к соседке, этого нет. В 55-ю годовщину Победы я написал заявление в Минсоцзащиты РБ о признании меня участником ВОВ. Ответ был таков. Вопрос о признании ветеранами ВОВ всех лиц, работавших в тылу в годы войны, прорабатывался. Но его решение для Беларуси отличается от **практики в других государствах, так как территория нашей республики была полностью оккупирована длительный период.** При этом даже не было сообщено, каким нормативным документом узаконено применение "отличной практики...". Кстати, на мой второй запрос чиновники ответили так: что касается признания ветеранами войны тех лиц, у которых в трудовых книжках есть записи о том, что в годы войны они работали на военных объектах, то каждое государство принимает свои законы; в Беларуси, мол, нет такого закона. И ни слова о том, почему не принимается такой закон.

Как-то Ваша газета напечатала "Исповедь остарбайтера №907", угнанного в Германию на принудительные работы. Меня ждала бы такая же участь, если бы я не попал в советский тыл. Теперь бывший остарбайтер имеет право на солидную денежную компенсацию от Германии. А я?

Ни моя семья, ни знакомые не могут понять, почему я и такие, как я, кто не щадил своих сил, своей юности на трудовом фронте ради нашей общей Победы, теперь оказались в сфере порочной "отличной практики"? Понимаю, Беларусь бедная, но разве я хуже трудился в войну, чем мой товарищ по цеху — русский паренек? А ведь труженики тыла в России и других государствах СНГ имеют льготы, положенные участникам войны.

Наверное, авторам "отличной практики" стоит напомнить высказывание дважды Героя Советского Союза, летчика-космонавта Г.Берегового: "Если бы не было труда миллионов женщин и подростков в тылу, мы бы не праздновали сегодня эту Победу". Но у наших "верхов", видимо, иное мнение...

Бронислав Константинович САДОВСКИЙ,
житель г.Минска.

ИЗ ПИСЕМ В РЕДАКЦИЮ

## Когда читаю Нила Гилевича...

Когда читаю на страницах "Народной воли" Нила Гилевича, такая жалость одолевает, что впору заплакать. Нет, не от того, о чем пишет Нил. А от того, как пишет, с какой болью бедняга переживает все сегодняшние напасти. Этому человеку хочется сказать шчыры дзякуй! Дзякуй табе, Ніл Сымонавіч, за твой боль...

Виктор Павлович РОМЕЙКО,
житель г.Минска.

## Зачем так тщательно его охранять?

Александр Григорьевич любит подчеркивать, что за него народ горой стоит. Тогда кого ему бояться? Зачем такая охрана? Понаблюдайте, как он добирается из знаменитых Дроздов на работу — целая кавалькада машин, милиция через каждые сто метров...

Вспомните те времена, когда Станислав Шушкевич ехал из Дома правительства домой — впереди шла "мигалка", а следом — его машина. И ничего не происходило, и не вылетали на ветер народные денежки.

Василий ПЯСЕЦКИЙ,
инженер, пенсионер.

Минск.

## Ад пераахаладжэння пацярпелі каля 140 чалавек

У перыяд з 7 па 14 снежня ў Беларусі ад пераахаладжэння пацярпелі каля 140 чалавек.

Як паведаміў БелаПАН галоўны ўрач Мінскай гарадской станцыі хуткай дапамогі Віталій Фяцішын, у Мінску, у прыватнасці, за названы перыяд у гарадскія бальніцы, з-за пераахаладжання, трапілі 19 чалавек. Ён адзначыў, што пацярпелыя былі дастаўлены ў аддзяленні прыёмнага пакою з дыягназамі "пераахаладжэнне" і "абмаражэнне канечнасцяў". Прычым большасць з іх знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Паводле слоў медыка, за гэты перыяд лятальных зыходаў па краіне зафіксавана не было.

Вольга АСІПЕНКА.

ПОЖЕЛАНИЕ

## А как у них?

Имея корреспондентов за рубежом (Польша, Германия, США и в других странах), "Народной воле" следовало бы, на мой взгляд, более подробно освещать вопросы сельскохозяйственного производства за рубежом, чтобы наши аграрники могли сопоставить эффективность своего труда (урожайность культур, надои молока, привесы скота, себестоимость продукции, рентабельность, доходность) с эффективностью труда их коллег в других странах. Нужно открывать глаза соотечественникам на нашу действительность. Эти темы для тружеников села весьма важны и актуальны, а газете придали бы больше респектабельности.

Сотрудникам "Народной воли" большое спасибо за глоток чистой правды! Примите мои искренние поздравления по случаю Нового года. Желаю всем счастья, здоровья, а газете — быть в каждой семье, на каждом столе.

При удобном случае передавайте низкий поклон Гончарику Владимиру Ивановичу за его мужество, порядочность, человечность.

Василий ЗЕНКОВИЧ,
житель г.Горки Могилевской области.

ВЕРСИЯ

## Борисевич снова заговорит на фарси?

12 декабря Александр Лукашенко освободил от должности своего пресс-секретаря Николая Борисевича. Поскольку на службу к главе государства Николай Борисевич пришел из Министерства иностранных дел, логично предположить, что теперь он вернется на дипломатическую стезю. И даже получит должность посла Беларуси в одной из стран. Какой? Возможно, в Иране. Дело в том, что Николай Борисевич один из немногих в Беларуси людей, который достаточно свободно объясняется на фарси. К тому же нельзя не учитывать особую расположенность главы белорусского государства к "неординарным" странам. Да и бывший сотрудник КГБ Беларуси, а позже парламентарий Леонид Рачков, который представляет белорусскую дипломатию в Тегеране, находится в Иране уже пять лет. По дипломатическим канонам, ему уже пора подыскивать другую страну.

Владимир КОТ.



У витрины.

Фото IREX/ProMedia.

## "Грыфаманія-2001"

19 снежня ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода пройдзе III фестываль гітарыстаў "Грыфаманія-2001".

Упершыню "Грыфаманія" абмяжуецца адным днём выступленняў віртуозаў гітарнай музыкі (раней фестываль праходзіў два дні), таксама ўпершыню гэта будзе фестываль не толькі для рок-гітарыстаў: стылёвыя рамкі "Грыфаманіі" пашырацца да выканання блюза, джаза, фламенка.

Мэта "Грыфаманіі", паводле слоў дырэктара фестывалю Юрыя Рашэтнікава, — "наладзіць свята для аматараў гітарнай музыкі".

Маша ПЯТРОВА.

## Адкрыты турнір "Падкідны дурань"

З 15 па 20 снежня ў мінскім казіно "Белая вежа" праходзіць адкрыты турнір па народнай картачнай гульні "Падкідны дурань".

Усе жадаючыя могуць узяць удзел у турніры, заплаціўшы ўступны ўзнос у памеры 300 тысяч рублёў. Прызавы фонд турніра на сёння складае 3 тысячы долараў ЗША, але, як удакладнілі БелаПАН у казіно, "ён хутчэй за ўсё павялічыцца да 5 тысяч долараў".

Гульня будзе весціся "сам-насам" да першага пройгрышу. Увайшоўшым у чвэрцьфінал гульцам вяртаецца ўступны ўзнос, паміж імі ж дзеліцца і галоўны прыз. Уваход для гледачоў вольны.

Лавінія АРЭШКА.

## Каманда БДУ — чэмпіён КВЗ

Зборная каманда Беларускага дзяржаўнага універсітэта другі раз стала чэмпіёнам Вышэйшай лігі Міжнароднага саюза КВЗ і першым чэмпіёнам XXI стагоддзя. 15 снежня ў зале Маскоўскага палаца моладзі (МПМ) яна перамагла ў фінальнай гульні каманду "Стомленыя сонцам" (Сочы).

Такой колькасці балельшчыкаў МПМ не бачыў даўно. Праніклі ўсе, хто змог сабе дазволіць стаяць на адной назе каля сцен і сядзець на руках тых, хто сядзеў на прыступках. Паняцце "аншлаг" выйшла за свае натуральныя межы.

Гульня ў запісе цягнулася 2 гадзіны 46 хвілін 30 секунд. У эфіры канала ГРТ яна будзе паказана 30 снежня.

БелаПАН.

ДЫСКУСІЯ

# Не страляйце ў піяніста ...

**У артыкуле "Генсек Браткин" у нумары за 20 лістапада Анатоль Казловіч па-ёрніцку пераказвае трагічную па сутнасці гісторыю чалавека, які атрымаў духоўную свабоду толькі ў сваёй душэўнай хваробе. І хаця Казловіч у пасляслоў'і запэўнівае, што ён не супраць партый, аднак не называе ніводнага прозвішча "генсекаў", з якімі ён асабіста знаёмы і міма якіх яму хочацца незаўважна праслізнуць.**



Юрась ХАДЫКА,
прафесар

Было б вельмі дзіўна чакаць, каб ва ўмовах беднага грамадства з нясклаўшайся палітычнай культурай і пры поўным панаванні ў інфармацыйнай сферы небяздарных абаронцаў паміраючай сістэмы адразу паўстала цывілізаваная партыйная структура. Наменклатурны клас, клас улады гэтага вельмі баіцца. Таму і намагаецца рознымі сродкамі дыскрэдытаваць рэальную апазіцыю і рэальныя дэмакратычныя партыі. Пазбавіць іх магчымасці дзейнічаць. Таму ім не дазваляецца атрымліваць фінансавую дапамогу з-за мяжы, пры тым што яны пазбаўлены (за выключэннем БПСМ) дзяржаўнай падтрымкі. Хаця такая падтрымка ажыццяўляецца ў любой цывілізаванай краіне. Таму яны пазбаўлены доступу да дзяржаўных СМІ, а ў выбарчым заканадаўстве адсутнічае прапартыйная сістэма галасавання. Такая сістэма існуе ва ўсіх нашых суседзяў і дазваляе партыям, якія маюць падтрымку ў грамадстве вышэй за нейкі парог у 3-5%, мець сваё прадстаўніцтва ў заканадаўчым органе.

Акрамя таго, дэмакратычным партыям супрацьпастаўляюцца партыі кшталту сацыяльна-спартыўнай ці "патрыётаў" памерлага сп.Баранкевіча. Ці ліберальныя дэмакраты сп. С.Гайдукевіча, якія сілкуюцца ад гандлю з Іракам і звычайна выступаюць насуперак рашэнням дэмакратычнай апазіцыі, як гэта было на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Я ўжо не кажу пра хлусню, якая лілася з экранаў БТ з вуснаў розных новікавых, казіятак і зімоўскіх і ў значнай меры льецца і цяпер многімі прапагандыстамі рэжыму. І пра амбіцыі лідэраў асобных дэмакратычных арганізацый і партый, якія часам вядуць да ўчынкаў, вельмі падобных на правакацыі. Згадаем паводзіны М.Статкевіча ці А.Фядуты.

Таму ва ўмовах шалёнага змагання дзяржавы з парасткамі дэмакратыі ў Беларусі апазіцыйныя партыі — гэта супольнасці добраахвотнікаў, кінуўшых адкрыты выклік лукашэнкаўскаму рэжыму. Сябры гэтых партый зарабляюць на хлеб надзённы не партыйнай працай ці партыйнымі пасадамі. Вызваленых работнікаў у кожнай дэмакратычнай партыі можна пералічыць па пальцах. Больш таго, як грамадзяне гэтай краіны, а не прышэльцы з Марса, яны часта становяцца ахвярамі сатрапаў "вертыкалі" ці лукашэнкаўскіх сілавых структур.

Такім людзям трэба сказаць дзякуй за тое, што яны неяк ратуюць гонар Беларусі. Канешне, калі згаданыя сп. Анатолем Казловічам "генсекі" прадстаўляюць дэмакратычныя партыі. Калі ж яны з супрацьлеглага лагера, то трэба было б задумацца, чаму яны цягнуць яго ў свае структуры. Ва ўсялякім выпадку, не трэба хаваць свае сапраўдныя адносіны з апазіцыяй і з апазіцыйнымі партыямі за недагаворкамі і намёкамі. Не думаю, што якія-небудзь партыі ці іх "генсекі" пакрыўдзіліся б за шчырасць на сп. Казловіча.

У мяне няма ні падстаў, ні права гаварыць ад імя ўсёй апазіцыі. Абараняць яе ці вучыць. Яна вельмі разнастайная. У ёй ёсць паслядоўныя праціўнікі рэжыму. І непаслядоўныя. І наогул выпадковыя людзі і арганізацыі. Ёсць і засланыя "казачкі" — агенты ахоўных лукашэнкаўскіх структур. (Дзіўна, калі б іх не было). У іх на ілбе не стаіць і не свеціцца каінава пячатка. Спрачацца з імі даводзіцца ў межах, якія прыняты ў цывілізаваным грамадстве. Менавіта таму так цяжка, а часам і позна дасягаецца адзінства дзеянняў апазіцыі.

Думаю, што не мае падстаў вучыць апазіцыю і яшчэ адзін аўтар "Народнай волі" — Аляксандр Альхавы, які надрукаваў свой артыкул у нумары за 21 лістапада. На думку сп. Альхавога, апазіцыя не прайграла, а "пазорна, безмозгла, бесталанна продула" выбары. Мабыць, аўтар не сочыць рэгулярна за публікацыямі сацыёлагаў у "Народнай волі". Не так даўно Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў апублікаваў вынікі свайго паслявыбарчага апытання. Яны сведчаць, што А.Лукашэнка насамрэч сабраў ад 50 да 55%. А яго галоўны сапернік, кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі У.Ганчарык — ад 27 да 29%. Больш таго, прафесар А.Манаеў, дырэктар інстытута, сцвярджае, што не спазніся на 1—1,5 месяца апазіцыя з вылучэннем "адзінага" кандыдата, яго падтрымка магла б дасягнуць 45%. І гэта нават пры тым, што ўся прапагандысцкая машына рэжыму, увесь яго так званы адміністратыўны рэсурс працаваў на ўтрыманне ўлады ў руках А.Лукашэнкі.

З гэтага, канешне, вынікае, што кампанія апазіцыі сапраўды была бязмозглай і бесталаннай. Бо не дасягнула 45%, як магла. Але гэтую кампанію нельганазваць выбарамі. Яе трэба называць кампаніяй змагання, у якой рэжым, як і абяцаў Лукашэнка, не грэбаваў выкарыстоўваць побач з хлуснёй, паклёпамі і фальсіфікацыяй нават сілу. Шанцаў выйграць гэтую кампанію ў апазіцыі амаль не было. Не дарма ж, каб атрымаць "элегантную перамогу", рэжыму давялося пайсці на маштабныя фальсіфікацыі. Ва ўсім свеце гэта лічыцца крымінальным злачынствам і жорстка караецца законам. У Беларусі гэта завецца "элегантнай перамогай" і служыць падставай для расчараваных дэмакратаў папракаць і вучыць апазіцыю.

Разгубленасць і расчараванасць, якія часта выплёскваюцца на старонкі "Народнай волі", можна зразумець, але не апраўдаць. Так і хочацца параіць усім настаўнікам выбраць сабе партыю па сэрцы і праз яе ў тых умовах, у якіх працуе рэальная беларуская апазіцыя, рэалізаваць свае парады. Бо ў гэтым выпадку не напісаў бы сп. Альхавы пра адносіны апазіцыі да БТ тое, што ён напісаў.

Мне здавалася, што У.Глод, адзін з сяброў экспертнай групы па пытаннях доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, падрабязна і сістэматычна апісваў у "Народнай волі" перагаворны працэс па гэтым пытанні паміж арганізаванай апазіцыяй і рэжымам. Аднак, магчыма, не толькі сп. Аляксандр, але і чытачы яго артыкула забыліся пра гэтыя публікацыі. Таму могуць падумаць, што крытыка сп. Альхавога — слушная. Насамрэч, усё адбывалася так, як ён раіць, а не так, як ён апісвае паводзіны апазіцыі.

У канцы лета 1999 года па ініцыятыве КНГ АБСЕ апазіцыя ўтварыла Кансультацыйную раду апазіцыйных палітычных партый (КРАПП) для падрыхтоўкі перамоўнага працэсу з рэжымам па чатырох пытаннях. Сярод іх і было пытанне пра доступ апазіцыі да электронных дзяржаўных СМІ. Бо апазіцыя, як і сп. Альхавы, лічыць гэтае пытанне надзвычай важным. Экспертную групу ўзначаліў прафесар М.Пастухоў і дамогся падпісання адпаведнага дакумента прадстаўніком Адміністрацыі прэзідэнта М.Сазонавым. Зразумела, што дакумент прадугледжваў вельмі сціплыя магчымасці для апазіцыі. Але гэта яго не выратавала. Бо Лукашэнка дзейнічаў у звыклай для сябе манеры. Ён з'ездзіў на саміт у Стамбул, запрашэнне куды залежала ад факта перамоў. А па вяртанні парваў паперу і звольніў М.Сазонава.

У хуткім часе па парадзе С.Посахава ён распачаў "шырокі грамадскі дыялог" замест перамоваў з КРАПП. Арганізаваная апазіцыя на неакрэслена шырокі дыялог не пайшла. У ім бралі ўдзел "проста дэмакраты" кшталту Ю.Загуменава, А.Фядуты ды ім падобных. У колькасці, здаецца, чалавек 80. Але ўлада аказалася няўдзячнай. Нават са згоднікамі не дамовілася аб доступе СМІ. І шырокі дыялог не прынёс ні грана карысці. Думаю, што і ў далейшым апазіцыя не паддасца на правакацыйныя перамовы.

Тэлевізійнае пытанне надзвычай важнае. Гэта лішні раз пацвердзіла мінуўшая празідэнцкая кампанія. Усе тры альтэрнатыўныя кандыдаты былі пастаўлены ў нязручныя, нават здзеклівыя ўмовы. Абмежаваны час, забарона адкрытага эфіру, адсутнасць вопыту рэгулярных публічных прамоваў зрабілі іх выступленні залішне напружанымі, пазбаўленымі лёгкасці, нецікавымі. Лукашэнка наогул адмовіўся ад такой ласкі. Яго і без гэтага штодня паказвала БТ у жывых і дынамічных сюжэтах. Так што выбары адбываліся не на падставе параўнання і ацэнкі розных канцэпцый развіцця краіны, а на падставе параўнання "гаворачых галоў" і клапатлівага мужнага "генералісімуса". БТ свядома ссунула акцэнты, бо невядома, як бы выглядаў генералісімус у адкрытай дыскусіі.

Але несумненна было б сцвярджаць, што апазіцыя не нарабіла памылак і што наогул не існавала верагоднасці перамагчы рэжым. Відавочнай памылкай было занадта позняе вызначэнне адзінага кандыдата, калі да дня галасавання засталося толькі тры тыдні. А да пачатку папярэдняга галасавання — яшчэ меней. Карані гэтай аблуды ляжалі глыбей, чым відавочная нязгода С.Домаша на працягу цэлага месяца зняць сваю кандыдатуру пасля рашэння дэмакратычнай "пяцёркі" (у тым ліку і самога С.Домаша) вылучыць адзіным кандыдатам Ул.Ганчарыка.

Сапраўдная прычына каранілася ў тым, што за год да выбараў адзіны дзеючы цэнтр дэмакратычнай апазіцыі — КРДС назваў тры прозвішчы — М.Чыгіра, С.Домаша і Ул.Ганчарыка — як верагодных кандыдатаў ад аб'яднанай апазіцыі. У чым былі прычыны такога незвычайнага рашэння? Бо, нагадаю, у аналагічнай сітуацыі югаслаўская апазіцыя выбрала лідэра невялікай цэнтрысцкай партыі. Лідэры буйнейшых партый Беларусі прыслухоўваліся да голасу незалежных сацыёлагаў і журналістаў, якія сцвярджалі, што народ чакае нейкага нейтральнага, непартыйнага прафесіянала. Названыя асобы цалкам адпавядалі гэтаму жаданаму іміджу. Таму іх вылучэнне было сустрэта журналістамі з вялікім энтузіязмам.

Больш таго бясспрэчны лідэр незалежных СМІ "Народная воля" разгарнула шырокамаштабную акцыю "Выбар-2001", стрыжнем якой стаў пошук яшчэ большай колькасці асобаў, здатных быць прэзідэнтам Беларусі. Здаецца, было названа каля 130 прозвішчаў. Пры гэтым ініцыятары "Выбару" не жадалі каардынаваць свае дзеянні з КРДС. Вось на фоне гэтай ліхой кампаніі, а можа, і пад яе ўздзеяннем, тройка прэтэндэнтаў, вылучаных каардынацыйным цэнтрам арганізаваных дэмакратычных сіл, замест таго, каб шляхам узаемных кансультацый вылучыць са свайго асяродку лідэра і пачаць фарміраваць аб'яднаную каманду, утварае індывідуальныя каманды, уцягваючы ў іх склад сяброў дэмакратычных партый. Больш таго, "тройка" без узгаднення з КРДС сваім уласным рашэннем пераўтвараецца ў "пяцёрку" за кошт П.Казлоўскага і С.Калякіна.

Такім чынам, на пачатку вясны "прэзідэнцкага года" з боку апазіцыі складваецца абсалютна штучная канструкцыя (альбо план) выбарчай кампаніі. Ініцыятыва канцэнтруецца ў межах "пяцёркі", якая і фармальна, і фактычна не залежыць (і не лічыцца!) ад КРДС. Але фактычна карыстаецца людскімі рэсурсамі партый, бо за выключэннем С.Калякіна не абапіраецца ні на якую арганізаваную структуру.

Наяўнасць у складзе "пяцёркі" паважанага Сяргея Іванавіча яшчэ больш падкрэслівае яе ненатуральнасць. Бо першапачатковая ідэя была ў стварэнні механізма вылучэння непартыйнага кандыдата. Можна смела сцвярджаць, што ў выпадку (праўда, малаверагодным) вылучэння "пяцёркай" адзіным кандыдатам С.Калякіна арганізацыі КРДС не падтрымалі б яго кандыдатуру, бо яго партыя нават не ўваходзіць у КРДС. І гэта азы палітычнай культуры. Дэмакратычныя партыі не могуць падтрымліваць лідэра партыі, якая не заяўляе пра свае дэмакратычныя ідэалы.

Можна папракаць КРДС і арганізацыі, якія ўваходзілі ў яго склад, за тое, што занадта доўга назіралі за дзеяннямі "пяцёркі", доўга ўгаворвалі яе сціснуцца да "адзінага". Можна тлумачыць гэтую страту ініцыятывы правакацыйнымі паводзінамі БСДП (НГ) і партыі працы, якія фактычна заблакіравалі ў гэты час дзейнасць КРДС. Але ўсё гэта — другаснае. Корань — у памылковым рашэнні будаваць выбарчую кампанію на "незалежных" кандыдатах. Корань — у тым, што была зроблена стаўка пабудаваць занадта шырокую кааліцыю, удзельнікі якой былі схільныя выкарыстоўваць кансенсус як зброю шантажу. Але было ўжо позна. Усе чакалі рашэння "пяцёркі".

КРДС ажыў толькі тады, калі ўсе пяць "дэмакратычных" кандыдатаў у атачэнні яшчэ пятнаццаці не менш дэмакратычных рынуліся на збор подпісаў. Стала ясна, што кампанія прайграецца. Адчайнымі намаганнямі лідэраў дэмакратычных партый і асабліва аргкамітэта руху "За новую Беларусь" на чале з В.Лявонавым у рэшце рэшт удалося прымусіць "пяцёрку" назваць прозвішча "адзінага". Але яшчэ месяц працягвалася валтузня з вызначэннем умоў аб'яднання двух прэтэндэнтаў, якія сабралі больш за 100 тысяч подпісаў, але толькі адзін з іх быў "адзіным".

Не толькі паводзіны С.Домаша, але і астатніх удзельнікаў "пяцёркі", заслугоўваюць асуджэння. Уся апазіцыя не была падрыхтавана да адзінства. І яе "грамадзянская" частка, і яе "сацыяльная" частка, якія, па ацэнках сацыёлагаў, ахопліваюць адпаведна 10% і 30% грамадства, былі дэзарыентаваны той какафоніяй, якую стварылі дэмакратычныя прэтэндэнты і незалежныя СМІ. Уся гэтая сітуацыя — толькі ілюстрацыя да той ролі, якую ў грамадстве павінны адыгрываць палітычныя партыі. Ілюстрацыя адмоўная. Але вельмі пераканаўчая. Хай сабе, як сцвярджаюць некаторыя сацыёлагі, партыі падтрымліваюць 2—3% насельніцтва. Але без арганізаванай сілы, якая дзейнічае ў адпаведнасці з нормамі палітычнай культуры, грамадства атрымлівае тое, што атрымала Беларусь 9—10 верасня.

Таму прыхільнікам і актывістам дэмакратычных партый, якія не пабаяліся падкласці свае сэрцы і рукі пад гэтую рыхлую кампанію, я хачу нагадаць словы з Евангелля: "Вы — соль зямлі". Не гніцеся і не хныччэ. А астатняй апазіцыі нагадаць мудрасць амерыканскага Дзікага Захаду: "не страляйце ў піяніста, ён іграе, як умее. Паіграйце лепей, калі можаце".

